Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

• №48 (84) ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ • 29 лістапада- 5 снежня 1996 года • Цана 1500 руб.

Сёння - "тоўсты" нумар!

## Падзея тыдня

22 лістапада ў Мінску адбылася сустрэча А. Лукашэнкі і С. Шарэцкага з удзелам В. Ціхіні, а таксама В. Чарнамырдзіна, Я. Строева, Г. Селязнёва. Вынікам сустрэчы з'явілася Пагадненне аб грамадска-палітычнай сітуацыі і аб Канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь. Яно прадугледжвала, што Вярхоўны Савет адклікае з Канстытуцыйнага суда прапановы аб імпічменце прэзідэнту, а кіраўнік дзяржавы аб'яўляе вынікі рэферэндуму кансультацыйнымі. Пасля чаго на працягу трох месяцаў Канстытуцыйны сход, на падставе рэкамендаванага народам тэксту зменненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, прымае новую рэдакцыю Асноўнага Закона.

Відавочным выйгрышам для Вярхоўнага Савета быў час, бо на працягу трох месяцаў адбыліся б давыбары дэпутатаў і можна было б прыняць больш радыкальныя законы. Прапрэзідэнцкая фракцыя "Згода" адмовілася, аднак, галасаваць за гэты дакумент і пагадненне не было ратыфікавана. Пасля чаго прэзідэнт у сваім выступленні па беларускім тэлебачанні паведаміў, што вынікі рэферэндуму па двух пытаннях– аб зменненнях і дапаўненнях у Канстытуцыю, а таксама аб Дні Незалежнасці будуць насіць абавязковы характар.

Вынікі рэферэндуму, што прайшоў у нашай рэспубліцы, наступныя: прыняілі ўдзел у галасаванні больш за 6 мільёнаў грамадзян і больш за 5 мільёнаў з іх падтрымалі новую рэдакцыю Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прапанаваную прэзідэнтам А. Лукашэнкам. У перыяд з 9 па 23 лістапада прагаласавала каля 25% унесеных у спісы грамадзян, і таксама каля 25% прагаласавала ў апошнія чатыры гадзіны 24 лістапада. Больш за 4 мільёны грамадзян выказаліся за тое, каб фінансаванне ўсіх галін улады ажыццяўлялася тайна і з усёмагчымых крыніц фінансавання. Хоць гэтае сёмае пытанне і носіць кансультацыйны характар, але наводзіць на сумны роздум аб узроўні развіцця свядомасці нашага грамадства і ставіць пад сумненне тэзіс аб тым, што народ заўсёды мае рацыю.

Атрымаўшы такую буйную перамогу на рэферэндуме, прэзідэнт пачне рэалізацыю свайго праекта Канстытуцыйнай рэформы і дзяржаўнага пераўладкавання. Палітычнае супрацьстаянне ў рэспубліцы выйшла на новы віток і тут зноў не абысціся без пасрэдніцтва і ацэнак Захаду і Расіі.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## "Я хачу ў інтэрнат"

**Гэтыя дзеці не ведаюць, што такое пасцельная бялізна, спяць на брудных матрацах сярод смецця і тараканаў. Яны застаюцца без ежы, адзення і элементарных школьных прылад...**

Матэрыял Наталлі Рабчанкі "Я хачу ў інтэрнат..." чытайце на 3-й старонцы.

## Рэферэндум

# Абзац!

***Так казаў мой даўні сябра, маючы на ўвазе абсалютную бязглуздзіцу. Можна зразумець тых 5 мільёнаў 450 тысяч 529 чалавек, якія хочуць жыць, як гэтага хоча для іх прэзідэнт. Усё-такі звычка– вялікая штука.***

Але як зразумець тыя мільёны, якія не хочуць выбіраць мясцовую ўладу? Адным словам, абзац, ды і толькі! Хіба таксама звычка– лацвей будзе скардзіцца прэзідэнту на мясцовую "вертыкаль": ён яе прызначыў, ён з ёй хай сам і разбярэцца.

А як вы ставіцеся да таго, што мы самі (выбачайце, амаль 70 працэнтаў нас) ну проста пішчом пішчым, каб нам не дакладалі аб тым, як фінансуюцца ўсе галіны ўлады? Сапраўды, навошта нам ведаць, куды ідуць нашы грошы? Хіба мы мала зарабляем! На ўсіх хопіць!

Абзац, панове!

*Мікола ГАЙДУК.*

## ЦІКАВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ, ПРЫКМЕТНАЯ РЭКЛАМА ДЛЯ ВАС

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




Падпісны АБАНЕМЕНТ шукайце на 3 старонцы.

## Па трабуюцца на работу

**Цэнтры занятасці паведамілі аб вакансіях па стане на 28 лістапада.**

**Астравец.** Юрыст (1), заатэхнік (1), ветурач (1), механік (1). **Тэл. для даведак 21708.**

**Мядзел.** Токар (1), газаэлектразваршчык (2), каваль (1), жывёлавод (2), работнік сталовай (2). **Тэл. для даведак 55835.**

**Маладзечна.** Швяя (70), газаэлектразваршчык (6), юрысконсульт (1).

Цэментны з-д у г. Касцюковічы, што на Магілёўшчыне, запрашае спецыялістаў на пасады галоўнага энергетыка, галоўнага тэхнолага, начальніка цэха, начальніка аддзела аўтаматызаванай сістэмы кіравання. Прадастаўляецца жыллё (кватэра).

У цэнтры працуе інфармацыйнае табло. **Вялікі Гасцінец, 147.**

**Ашмяны.** Падсобны рабочы (2), газаэлектразваршчык (1), ветурач (1), вартаўнік (2). Гаспадаркі раёна запрашаюць на грамадскія работы. **Тэл. для даведак 21599.**

**Валожын.** Вальшчык лесу (7), сталяр-станочнік (1). **Тэл. для даведак 55581.**

**Смаргонь.** Электраманцёр (1), газаэлектразваршчык (1), газарэзчык (1), токар (1), лагапед (1), педыятр (1), фармацэўт (1), муляр (1), экскаватаршчык (1), інжынер-электроншчык (1). **Тэл. для даведак 32130.**

## Адным абзацам

❑У снежні жадаючыя адзначаць юбілей– 5-годдзе СНД. Ужо ідзе падрыхтоўка да чарговага саміту з удзелам прэзідэнтаў краін Садружнасці. Пройдзе ён у Маскве.

❑Таксама ў Маскве з 28 па 29 лістапада праходзяць Дні беларускай прэсы, якія арганізаваў Дзяржкамітэт РБ па друку. Павінна адбыцца падпісанне пратаколу аб узаемаабмене інфармацыяй паміж названым Дзяржкамітэтам, інтэграцыйным камітэтам і выканкамам Садружнасці Беларусі і Расіі.

❑1 снежня– Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу. Да гэтага дня прымеркаваны Першы фестываль музычных калектываў беларускіх ВНУ "Рок-універсітэт". 28 і 29 лістапада ў політэхнічнай акадэміі ідзе конкурсная праграма фестывалю. А на гала-канцэрце будуць раздавацца плакаты і брашуры з парадамі, як пазбегнуць хваробы веку.

❑Тры гады ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры дзейнічае першае бюро Нямецкага культурнага цэнтра. А нядаўна яго агульнае фарміраванне было завершана адкрыццём бібліятэкі культурнага цэнтра імя Гётэ.

❑Аматараў экзатычных страў чакае сюрпрыз. У лістападзе на прадпрыемстве "Крыніца" распачалі выпуск "ледзяной гарбаты". Да гэтага ў Беларусі падобнага напою не выпускалі, але ў краінах Еўропы ён карыстаецца павышаным попытам.

❑Рада Еўропы і іншыя уплывовыя міжнародныя арганізацыі не прызналі сапраўднасці вынікаў праведзенага ў Беларусі рэферэндуму.

❑Апошняя ракета з ядзерным боезапасам пакінула межы Беларусі. Падзеі былі прысвечаны ўрачыстасці ў Лідзе.

## Навіны

### Цэнтр тэхабслугоўвання

***СМАРГОНЬ. У хуткім часе горад, магчыма, стане рэгіянальным цэнтрам тэхнічнага абслугоўвання аўтатранспарту. 80 машын у месяц абслугоўвае станцыя, што месціцца на тэрыторыі складоў абменнага пункта "Райаграпрамтэхнікі".***

Акрамя гэтага на выездзе ў бок Маладзечна будуецца станцыя па замежным праекце. А на выездзе на Вільнюс рэканструюецца дзве заправачныя калонкі.

Якая са станцый перамо жа ў барацьбе за кліента, магчыма, вызначыцца падборам кадраў. На той, што працуе,– хлопцы з агрэгатнага завода. Адсутнасць з іх боку якасці і гарантыі– шлях да страты работы. А зноў вяртацца на завод жадаючых не будзе.

*Альберт КУМІШЧА.*



### У кніжак будзе наваселле

***АСТРАВЕЦ. Чаго толькі не было ў будынку №6 па вуліцы Набярэжнай.***

Доўгі час там мясцілася рэдакцыя мясцовай газеты, затым аддзяленне АКБ "Белбізнесбанк", якое пасля сваёй ліквідацыі пакінула "харомы" пад раённую бібліятэку. Пэўны тэрмін тут вялося рамонтныя работы, расстаўляліся кніжныя паліцы, а кніжкі перавязджалі на новае месца.

І вось заўтра а 12 гадзіне тут адбудзецца ўрачыстае адкрыццё. Акрамя гэтага ўключана прэзентацыя кніг паэтаў-землякоў Рычарда Бялячыца "Прасветлінка" і Станіслава Валодзькі "У вачах Айчыны". Ёсць спадзяванні, што не абміне ўвагай бібліятэкараў і пісьменнік Адам Мальдзіс, які нарадзіўся на Астравеччыне.

*Аддзел інфармацыі.*

### І ночка цёмная была...

***АШМЯНЫ. А калі так, то і розныя крымінальныя элементы пад месяцавы свет спрабуюць рабіць свае "тёмные дела". Толькі не заўсёды добра атрымліваецца.***

У ноч з 26 на 27 лістапада ў ашмянскім накірунку беларуска-літоўскай мяжы пагранічным нарадам на адной з аб'язных дарог для праверкі быў спынены аўтафургон "ЗіЛ-131" з мінскімі нумарамі. Розныя здагадкі былі ў пагранічнікаў наконт таго, што там знаходзіцца, бо проста так падобныя "фуры" на мяжы па начах не ездзяць. І здагадкі наконт розных тавараў, каляровых металаў разляцеліся ў адно імгненне, калі адчыніліся дзверы. У фургоне знаходзіўся "жывы тавар", а дакладней 57 асоб афра-азіяцкага паходжання.

Цяпер з імі вядзецца разбор і выяўляюцца ўсе абставіны, а на астатніх накірунках пагранпастоў уведзена павышаная пільнасць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Калі разлад на карысць

***ВІЛЕЙКА. Спрэчка паміж ВА жыллёва-камунальнай гаспадаркі і заводам "Зеніт" адносна таго, каму быць уладальнікам кацельні, здаецца, скончылася.***

Зенітаўская кацельня ацяпляе большую частку горада. Гаспадар застаўся той жа. Але аптовы пакупнік, ВА ЖКГ, не пагадзіўшыся з сумай, якую завод выставіў за цяпло, ўстанавіў на кацельні лічыльнікі– цеплямеры. Іх выкарыстанне дапамагло толькі за адзін месяц зменшыць выдаткі на цяпло на 513 мільёнаў рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

Сведчаць дакументы

## Хроніка злачынстваў 1939-1941

Працяг.
Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-47.

# Варажба на касцях, або Што не дагаварылі вязні вілейскай турмы

*Завяршаем публікацыю допіса ў рэдакцыю Мікалая ЖУЧКО, які выказвае свой погляд на падзеі 1941 года, звязаныя з эвакуацыяй турмы ў Вілейцы.*

Можа, я вельмі прыдзірліва ацэньваю сітуацыю. Але як супаставіць адно з другім. І яшчэ адзін няясны момант: чаму ўспаміны зняволеных абрываюцца "на Разані". Лагічна было б працягнуць расказ і паведаць людзям аб пакутах у разанскай турме. Што замоўчвалі ў сваіх успамінах вязні? Якая загадка крыецца за ўсім гэтым? Адказ на ўзніклыя пытанні я знайшоў у невялікай шэрай папцы– справе на Рамана Перуна. Настаўнік. Арыштаваны 19 чэрвеня 1941 года як удзельнік контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі. 21 чэрвеня яго прыняў дзяжурны Вілейскай турмы. Праз некалькі дзён Раман Пярун у агульнай калоне адправіцца з Вілейкі ў Барысаў. А далей у справе знаходзім вельмі цікавы дакумент. У ім сказана, што Раман Пярун "16 сентября 1941 года УНКВД Рязанской области был освобождён из-под стражи на основании Указа Президиума Верховного Совета Союза ССР от 12.8 1941 г. об амнистии польских граждан" и мае права свабоднага пражывання на тэрыторыі СССР, за выключэннем пагранічнай паласы, забароненых зон, мясцовасцей, што аб'яўленыя на ваенным становішчы, і раённых гарадоў 1 і 2 катэгорый. Такія абмежаванні наогул зразумелыя: час жа ваенны. Месцам для пражывання Пярун выбраў горад Бузулук. Дарэчы, адначасова адзначу, Раман Пярун быў рэабілітаваны 15 жніўня 1964 года.

Зараз супаставім некаторыя моманты. Вілейскія вязні прыбываюць у Разань 5 жніўня. Прэзідыўм Вярхоўнага Савета СССР 12 жніўня прымае закон аб амністыі польскіх грамадзян. Яшчэ праз чатыры дні пастановай Дзяржаўнага камітэта абароны НКУС СССР прадпісваецца пры вызваленні польскіх ваеннапалонных і інтэрніраваных выдаваць ім аднаразовую грашовую дапамогу: генералам– 10 тысяч, палкоўнікам– 5, падпалкоўнікам і маёрам– 3, астатнім афіцэрам па 2 тысячы, малодшым камандзірам і радавому саставу– 500 рублёў.

Для параўнання, 500 рублёў– месячная зарплата на той час высокакваліфікаванага маскоўскага рабочага. Усяго ж на гэтыя мэты было адпушчна 15 мільёнаў рублёў. Фарміраванне арміі Андэса пачалося таксама ў жніўні (штаб знаходзіўся ў г. Бузулуку). Яе касцяк павінны былі скласці палякі, што жылі на тэрыторыі СССР і былыя польскія ваеннапалонныя. Але, як сцвярджае аўтар артыкула "Славянскі саркафаг", на момант фарміравання арміі магло набрацца ўсяго на паўтары дывізіі. А гаворка ідзе аб цэлай арміі. Адсюль становяцца цалкам зразумелыя дзве акалічнасці: вываз вілейскіх вязняў менавіта ў Разань, а не куды-небудзь у Варкуту або на Калыму, і тое, што на станцыі ў Барысаве да вызначанага тэрміну іх чакалі вагоны ( у той час, калі гітлераўцы імкліва наступалі, а па ўсім фронце панавала паніка. Без усякіх сумненняў, начальнік канвою меў на дадзены выпадак канкрэтны загад. Але замест гэтага, як сведчаць успаміны, дэмаралізаваная ахова пачынае расстрэльваць людзей па дарозе ў Барысаў. Не тое што дзесяткамі– сотнямі. І не дзе-небудзь у лесе, а каля вёсак. Лічы, на вачах у мясцовых жыхароў. А праз некаторы час тым, хто застаўся ў жывых, даюць у рукі зброю і пасылаюць змагацца. Бязглуздзіца нейкая.

Я зусім не спрабую абвінаваціць каго-небудзь у скажэнні фактаў. Проста іх супастаўленне і аналіз выклікаюць больш пытанняў, чым даюць адказаў. Так, гісторыя здольна ўтойваць мінулае. Але як часта сёння, пры спробе разабрацца ў ім, у аснову асноў ставяцца не аб'ектыўнасць і бестароннасць, а тонкі палітычны разлік, амбіцыйная варажба на касцях.

У адказе, які дала пракуратура Рэспублікі Беларусь з прычыны публікацыі артыкула "Кладбище", сказана наступнае: "Каких-либо данных о политических репрессиях на территории тюрьмы органами НКВД в процессе проверки не установлено." А выяўленыя рэшткі "являются останками военнопленных и мирных советских граждан, расстрелянных на территории тюрьмы в период немецко-фашистской оккупации". Апошнюю кропку ў гэтай справе, думаецца, паставіла перазахаванне знойдзеных рэшткаў на гарадскіх могілках. Жывыя выканалі свой абавязак перад мёртвымі.

***

*Допісам Мікалая Жучко мы не заканчваем цыкл публікацый аб лёсе вязняў турмы ў Вілейцы. Вядома, меркаванне Жучко не падзеляць многія. Ды і апублікаваныя ў нашай газеце ўспаміны Васіля Місюля проста не пакідаюць сумненняў: НКВД ў сорак першым вяло расстрэлы ў вілейскіх мурах! Сёння можна гаварыць, што ў рэдакцыі "РГ" ёсць новыя сведчанні пра тое, як гналі вязняў па бальшаку ў кірунку Плешчаніцаў. У вёсцы Малмыгі, напрыклад, усіх сялян загналі ў дамы і забаранілі падыходзіць да вокнаў. Ля Касуты і сёння мясцовыя старажылы могуць згадаць пра месца, дзе "нашы пастралялі нашых". На вялікі жаль, значная частка "дарогі смерці" пайшла ў сямідзесятыя пад ваду Вілейскага вадасховішча. Няма і згаданых Малмыгаў у тым ліку. Але засталіся яшчэ тыя, хто можа памятаць спякотныя чэрвеньскія дні 1941-га. Адгукніцеся. Магчыма, вам пра тыя падзеі расказвалі бацькі або старэйшыя аднавяскоўцы. Дайце знаць пра сябе ў рэдакцыю "РГ".*

*Працяг у наступных нумарах.*

# Усе журналісты ў госці да нас

***АСТРАВЕЦ.** Нядаўна на базе мясцовай "раёнкі" адбыўся аднадзённы міждзяржаўны семінар рэдактараў мясцовых газет Гродзеншчыны і прыгранічных раёнаў Літвы.*

"Беларусь– Літва: рэгіянальнае супрацоўніцтва ў сферы СМІ"– насіў ён такую назву. Удзел у ім узялі рэдактары літоўскіх газет са Свянцянаў, Шальчынінкая, Ігналіны, рэдактары абласной і раённых газет Гродзенскай вобласці, а таксама пасол Літвы Віктарас Баўбліс, першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Зіновій Прыгодзіч і іншыя.

У першай палове дня ўдзельнікі абменьваліся думкамі аб праблемах і дасягненнях сваіх выданняў, дзяліліся новымі прынцыпамі, якімі карыстаюцца ў паўсядзённай працы. Што і казаць, але цікава было слухаць літоўскіх калег, бо ў адрозненне ад большасці нашых "раёнак" ім фінансавай дапамогі чакаць не прыходзіцца ні ад каго. У як удаецца ўтрымліваць тыраж, не патануць у моры канкурэнцыі рэдакцыі– літоўскія калегі ахвотна дзяліліся. Затым удзельнікі семінара наведалі беларуска-літоўскую школу ў Рымдзюнах, касцёлы ў Варнянах і Гервятах.

Завяршыўся напружаны дзень вячэрай у рэстаране, дзе размовы вяліся за кубкам кавы і не толькі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Не дацягнулі да "сярэбранага вяселля"

***ВІЛЕЙКА.** Надакучылі адзін аднаму 80-гадовая кабета і 23-гадовы тэлевізар.*

Увечары з "Гарызонта" пайшоў дым, а потым выбухам разнесла яго па частках. Гаспадыня Соф'я Грыцэвіч трапіла ў бальніцу з апёкамі другой і трэцяй ступеняў.

*Алена АЛЬФЕР.*

Дзень інвалідаў

# Па жыцці на інваліднай калясцы



***МАЛАДЗЕЧНА.** Таццяна Гамолка інвалід з дзяцінства. З нараджэння ўрачы вынеслі прысуд– туберкулёз пазваночніка, паралізаваныя ногі. Пасля Таццяны бацькі нарадзілі яшчэ хлопчыка і дзяўчынку– абсалютна здаровых.*

З маленства Таццяна "пацыганску" пераязджала з месца на месца. 6 гадоў жыла і вучылася ў Івянцы– санаторыі, інтэрнаце. Давучвалася дома– жыла на кватэры ў цёткі Яўгеніі ў 5 кіламетрах ад роднай вёскі Рабунь, што на Вілейшчыне. Потым паехала за сяброўкай у Маладзечанскі дом-інтэрнат.

За 9 гадоў, што там пражыла, адбыліся розныя падзеі. Самая прыемная– сустрэла Аляксея з такім жа дыягназам, як у самой. Выйшла за яго замуж. Хаця сям'і адвялі асобны пакойчык, жыць па дзяржаўнаму раскладу, харчавацца з дзяржаўнай кухні абрыдла. Хацелася мець сваю кватэру і жыць, як усе,– працаваць, самім гатаваць ежу.

Неяк выпісаліся з інтэрната, купілі прапіску, блукалі па прыватных кватэрах. Усё ж атрымалі кватэру па вуліцы Маркава з туалетам на двары. А потым і добраўпарадкаваную аднапакаёўку.

Таццяна не адчувала сябе пакрыўджанай лёсам. Па заказах фабрыкі мастацкіх вырабаў дома вышывала бялізну, ад камбіната надомнай працы вязала жгуты.

На мотакалясцы ездзіла на госці да маці, у сталіцу.

Але ўсё раптоўна змянілася, калі памёр муж, які стаяў на ўліку як гіпертонік. Адмовіліся ад дапамогі інвалідаў прадпрыемствы. Зламалася мотакаляска. Таццяна Гамолка жыве на пенсію ў 580 тысяч. Калі-некалі вяжа на заказ тапачкі з кутасамі, любіць слухаць магнітафонныя запісы любімых Кабзона і Крысталінскай. Калі я яе наведаў, чытала раман Міхаіла Герчыка "Обретение надежды".

У Таццяны дзве мары. Маленькая– набыць запчасткі для мотакаляскі. Вялікая– назаўсёды з'ехаць у Мінск: зноў на дзяржаўнае забеспячэнне. Палохае набліжэнне старасці.

– Гары ўсё гарам,– часцяком прыгаворвае адзінокая хворая жанчына,– цяпер і маладыя, здаровыя не жывуць, а існуюць.

На тэлевізары гадзіннік у самаробнай апраўе з хлеба і цукру адлічвае час.

– Бягуць хвілінкі пустога, бязрадаснага жыцця,– перахапіла мой погляд Таццяна.

*Васіль САВІЦКІ.*

*На фота: Гэтыя людзі жывуць побач з намі. Спагада – для іх не пусты гук.*



Для тых, хто верыць Месяцу

## Месяцавы каляндар на снежань

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак<br>Мес.дзень | | 2<br>—<br>22 | 9<br>7,17<br>29 | 16<br>12,56<br>7 | 23<br>16,25<br>14 |
| Аўторак<br>Мес.дзень | | 3<br>0,47<br>23 | 10<br>8,26<br>20.31,<br>30,1 | 17<br>13,20<br>8 | 24<br>17.12<br>15 |
| Серада<br>Мес.дзень | | 4<br>1.29<br>24 | 11<br>9,31<br>2 | 18<br>13,44<br>9 | 25<br>18.05<br>16 |
| Чацвер<br>Мес.дзень | | 5<br>2.36<br>25 | 12<br>10,27<br>3 | 19<br>14,10<br>10 | 26<br>19.03<br>17 |
| Пятніца<br>Мес.дзень | | 6<br>3.43<br>26 | 13<br>11,15<br>4 | 20<br>14,38<br>11 | 27<br>20,05<br>18 |
| Субота<br>Мес.дзень | | 7<br>4.53<br>27 | 14<br>11,55<br>5 | 21<br>15.08<br>12 | 28<br>21.05<br>19 |
| Нядзеля<br>Мес.дзень | 1<br>23.20<br>22 | 8<br>6.05<br>28 | 15<br>12,28<br>6 | 22<br>15,45<br>13 | 29<br>22.10<br>20 |
| Дата | | 3 снежня | 10 снежня | 17 снежня | 24 снежня |
| ФАЗЫ Месяца | | 3 чвэрць | маладзік | 1 чвэрць | поўня |

Усход Месяца– для Маладзечна.

Крытычныя месяцавыя дні– 4, 9, 15, 19, 23, 26, 29– патрабуюць перасцярогі і абароны.

Спрыяльныя месяцавыя дні– 6, 10, 12, 16, 17, 30– даюць добрую энергію і падтрымку светлых сіл.

## Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 2 | 5 | 7 | 9 | 11 | 13 | 15 | 17 | 20 | 22 | 24 | 27 | 29 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ |

## Сустракайце– год Лісіцы.

У гэты год нам даводзіцца адказваць за тую дысгармонію, якую стварылі ў недалёкім мінулым. Неабходна чакаць яшчэ большага ўмацавання ўлады. Юпітэр у Казярогу ў X Доме, а Беларусь, як вядома, пад Казярогам. Адтуль Юпітэр б'е квадратурай месяц, які знаходзіцца ў апошняй трэці VII Дома– судовыя справы над растлусцеўшымі прадстаўнікамі ўлады. Па-ранейшаму чакаюцца аварыі на транспарце, будуць падаць самалёты і тануць караблі, адбывацца замыканні на электрастанцыях, асабліва атамных. Будзе ісці аднаўленне справядлівасці, законаў, прытым стрыжнёвых, асноўных, цэнтральных, якія кіруюць грамадствам.

1997 год звязаны са змяненнем часу, з ветрам. Гэта будзе год нейкіх выпадковых зменаў. І таму татэмам выбрана Лісіца, вельмі разумная і хітрая, часам вераломная. Год, які вяртае нас да мінулага, да таго, што ўжо калісьці было, завершыць цыкл і адкрые новы. У некаторых выпадках гэта атрыманне духоўных традыцый, аднаўленне раўнавагі.

У горшым выпадку– год падману, закулісных інтрыг, разбурэння, плётак, заблытаных выпадкаў, праяўлення барацьбы інтэлектуалаў. Многія цыклы завершаць сваё жыццё без барацьбы. Магчымыя непрагназуемыя змены.

Менавіта ў гэты год розум пераможа сілу, нягоднікі і паганцы ў гэты час гінуць, не вытрымліваючы націску.

Лісіца характарызуецца спрытнасцю, уменнем, іранічнасцю, вялікім пачуццём гумару, хітрасцю, што перамагае сілу. Карае няпраўду і хлусню.

Антытатэм Лісіцы– Пацук-Трус (жывёла, падобная на труса, але з пацучыным хвастом). Лісіца заўсёды змагаецца супраць Труса. Трус выступае ў Авесце, як носьбіт нечыстоты, абжэрства, нізкіх інстынктаў. Вось такі гэта будзе год.

*Іван ШУБЦІК.*

# "Я хачу ў інтэрнат"

*МАЛАДЗЕЧНА. У такіх сем'ях бацькі становяцца на шлях дэградацыі праз наркотыкі, п'янства і разгулы. Шмат хто з іх трапляе ў турму, таксама пакідаючы сваіх дзяцей падманутымі. Гэтых людзей адрознівае безадказнасць, прыхільнасць да гарэлкі і нежаданне працаваць.*

Вось так і М. Ланкялене, не працуючы нідзе, прапівала грашовую дапамогу на дзяцей да апошняй капейкі. Пакінутая на суседзяў, яе двухгадовая Даша трапіла ў інфекцыйную бальніцу, куды маці на працягу месяца не зазірала. Як стала вядома пазней, яна і не шукала сваю дачку.

Замест таго, каб даглядаць дзяцей, такія жанчыны прыводзяць у кватэры выпадковых людзей з крымінальнага свету. У час запою яны бадзяжнічаюць, надоўга кідаючы дзяцей пад замком без ежы. Шмат прычын знаходзіцца ў іх, каб ухіліцца ад сваіх абавязкаў.

– Як жа я магу апякаць дзяцей, калі не маю пастаяннага заробку,– лічаць яны і лёгка скідаюць з сябе ўсе праблемы па выхаванні сыноў і дачок.

Дваццаць грамадзянскіх спраў аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў разгледжана судом за апошні год. Сіроты пры жывых бацьках, хлопчыкі і дзяўчынкі атрымалі больш надзейных апякуноў сярод сваіх бабуль, выхавальнікаў школ-інтэрнатаў, іншых людзей. Такія рашэнні прыняты з дапамогай камісіі гарвыканкома па справах непаўналетніх, супрацоўнікаў міліцыі і ўсіх, каму неабыякавы лёс забытых дзяцей.

Трапілі ў гэты спіс Ж. Мурашка, асуджаны за крадзеж А. Сідараў, а таксама В. Рухля, якая піла і выносіла з кватэры рэчы, каб прадаваць іх. Сваю сям'ю, ды і суседзяў таксама, яна даймала бясконцымі сварамі. П'яная кідалася ў пакой дачкі з сякерай у той момант, калі тая рыхтавалася да школьных заняткаў.

Двухгадовага Кірыла Гатковіча пакутуючы на хранічны алкагалізм бацька зманьваў гнаць самагон, а потым спойваў малога, не клапоцячыся аб яго будучыні. Напалоханы сварамі бацькоў, хлопчык не мог спакойна спаць, баяўся сваёй маці.

Вучаніца трэцяга класа Тамара Зырыкава, якая таксама не бачыла ў сям'і нічога добрага і ўзорнага, стала красці кашалькі ў аўтобусах і на рынку. Разам з сястрою Алёнаю з-за адсутнасці адзення не магла наведваць школу.

Вучань чацвёртага класа Мікалай Несен, падоўгу застаючыся ў кватэры без ежы з чатырма малодшымі братамі і сёстрамі, быў прымушаны прасіць для іх хлеб у суседзяў.

У такіх сем'ях дзеці не карыстаюцца пасцельнымі прыналежнасцямі і спяць на голых матрацах сярод смецця і тараканаў. Яны застаюцца без ежы, адзення і элементарных школьных прылад– сшыткаў, дзённікаў, ручак. Маючы да вучобы сярэднія здольнасці, па віне сваіх бацькоў не наведваюць урокі ў школе. З-за недахопу вітамінаў яны шмат хварэюць, адстаюць ад сваіх аднагодкаў у развіцці.

Цяжкія ўмовы жыцця штурхаюць дзяцей на вуліцу, у кампаніі наркаманаў і злачынцаў. Ёсць толькі адзін шанц выратаваць гэтых "сірот"– ізаляваць іх ад сваіх бацькоў, пазбавіўшы тых судом бацькоўскіх правоў.

А што ж дзеці? Яны згаджаюцца з гэтым не ад добрага жыцця і выказваюць свае асабістыя меркаванні так, як гэта зрабіў Віталь Гапонаў:

– Я хачу ў інтэрнат, каб не быць галодным.

*Наталля РАБЧАНКА.*

**Будзь абачлівым!**

# Інспектар умешваецца, каб зберагчы вашае жыццё

*МАЛАДЗЕЧНА. 14 ліпеня ў калгасе "Лебедзева" трактарыст В. Кароўскі, займаючыся рамонтам трактара Т-150К, зняў рычаг каробкі перадач і пачаў запускаць дызель. Трактар рушыў з месца, збіў левым пярэднім колам трактарыста, які ад траўм галавы памёр. Няшчасны быў п'яным.*

*18 чэрвеня сталяр СП "ММЦ" А. Галаўніцкі пры ўключаным станку хацеў убраць стружку з рабочай фрэзы. У выніку ён пазбавіўся пальца.*

*24 лютага загадчык майстэрняў калгаса "21 з'езд" М. Кулік скідаў з даху майстэрні снег, праваліўся, пераламаў аснаванне чэрапа і памёр.*

Гэтыя выпадкі не адзінкавыя. З пачатку года ў зоне, якую кантралюе Маладзечанская занальная інспекцыя працы (Маладзечанскі, Мядзельскі, Валожынскі, Вілейскі раёны), на вытворчасці адбылося 38 няшчасных выпадкаў. З іх групавых– 3, з цяжкім вынікам– 24, смяротных– 11. Загінулі 10 чалавек, 28 атрымалі цяжкія траўмы.

Асноўная доля вытворчага траўматызму прыпадае на АПК, лясную і лесаперапрацоўчую прамысловасць, а таксама на будаўнічыя арганізацыі.

Калі займаемся аналізам выпадкаў, то бачым, што галоўнымі прычынамі траўматызму з'яўляюцца благая арганізацыя работ, недахопы ў навучэнні тэхніцы бяспекі, парушэнне правілаў дарожнага руху.

На некаторых прадпрыемствах часта імкнуцца ўтоіць выпадкі траўматызму. Гэта АТ "Забудова", калгас "Прагрэс", ЗАТ "Пушэ", калгас "Чырвоны кастрычнік" Вілейскага раёна.

Каб прадухіліць няшчасці, інспекцыя па працы праводзіць праверкі прадпрыемстваў. За дзесяць месяцаў прыпынена работа 443 адзінак абсталявання, 7 вытворчых участкаў. Аштрафавана, прыцягнута да адказнасці– 68. Дзякуючы нашаму ўмяшанню 5 чалавек аднавілі на рабоце.

*Алег ЧАНАДА,*
*старшы інспектар Маладзечанскай занальнай інспекцыі па працы.*

# З гэтым квітком вас чакаюць на пошце

**У нашым рэгіёне падпіска на першае паўгоддзе 1997 года закончыцца ў самым канцы года– 25 снежня. Кошт падпіскі на "Рэгіянальную газету" на адзін месяц– 8 тыс. руб., на тры месяцы– 24 тыс. руб., на паўгоддзе– 48 тыс. руб. Самы надзейны спосаб застацца з "Рэгіянальнай"– падпісацца на яе. У наступным годзе наша газета будзе паступова працягваць працэс "патаўсцення", пашырыцца тэматыка і геаграфія навін. Большае месца зоймуць займальныя матэрыялы.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на** 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

Колькасць камплектаў

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА на** 63212 (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Кнігарня**

# Барыс Кіт навучаў у Маладзечне

*На кніжных паліцах з'явілася кніга Лідзіі Савік "Космас беларуса". Жыццяпіс Барыса Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта, выдадзены мінскім выдавецтвам "Пейто", на жаль, невялікім накладам– 2000 экз. Пра Барыса Кіта, якога Васіль Быкаў назваў "найлепшым з Беларусаў у свеце" мы ўжо расказвалі. Сённяшняя інфармацыя аб кнізе і яе герою напісана вучнем выбітнага сына нашай зямлі, маладзечанцам, мастаком Кастусём Харашэвічам. Перш чым вы пачняце чытаць яго допіс, скажам, што ў Маладзечне кніга Савік разышласа вокамгненна. Але яе яшчэ можна набыць у некаторых кнігарнях Мінска, у прыватнасці ў "Кнігарні пісьменніка", што на вуліцы Казлова непадалёк ад кінатэатра "Мір". І па невялікай цане– 26600 рублёў.*

*Аддзел інфармацыі.*

Барыс Кіт– беларус, грамадзянін Амерыкі, матэматык, Акадэмік Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі, заслужаны прафесар Мэрылендскага ўніверсітэта ў ЗША, доктар філасофіі, ганаровы прафесар Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, ганаровы грамадзянін Навагрудка. Пакінуўшы сваю Бацькаўшчыну ў 1944-м, у далёкай Амерыцы стаў вядомым вучоным у галіне касмічных даследаванняў. Браў удзел амаль ва ўсіх найбольш значных амерыканскіх касмічных праграмах, у тым ліку і такой, як "Апалон". Быў дарадчыкам урада ЗША па астранаўтыцы. Прымаў удзел у першых перамовах ЗША і СССР па пытаннях засваення касмічнай прасторы.

У 1960 г. выдае першую ў гісторыі навукі кніжку-падручнік па ўсіх магчымых палівах для ракетных рухавікоў. З лекцыямі і дакладамі пабываў у буйнейшых навуковых цэнтрах многіх краін свету. І толькі ў родную Беларусь дарога яму доўгі час была недасягальнай.




Чытачам будзе вельмі цікава даведацца, што перш чым апынуцца ў замежжы, гэты чалавек пакінуў значны след на сваёй Бацькаўшчыне (у тым ліку і ў Маладзечне) у справе нацыянальнай асветы і арганізацыі беларускіх школ.

Нашчадак сялянскага роду з Наваградчыны, 1910 года нараджэння, нягледзячы на цяжкасці сялянскага жыцця пры панскай Польшчы ў тагачаснай Заходняй Беларусі, Барыс Кіт у 1928 г. скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, а ў 1933 г.– Віленскі ўніверсітэт.

Пэўны час працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Віленскай беларускай гімназіі, якая ў той час была цвярдыняй нацыянальна-адраджэнцкага руху. Менавіта тады будучы вучоны зразумеў, што дзеля таго, каб Беларусь некалі стала свабоднай, а народ жыў заможна, грамадству патрэбны веды і нацыянальнае ўсведамленне. У гэтай справе, як вынікае з кніжкі, яму нямала ўдалося зрабіць пасля таго, як Заходняя Беларусь была далучана да БССР.

Стаўшы інспектарам школ па Баранавіцкай акрузе, за адзін толькі год Барыс Кіт садзейнічае адкрыццю каля сотні пачатковых і дзесяці сярэдніх беларускіх школ замест былых польскіх, спрыяе пашырэнню нацыянальнага патрыятызму ў вучнёўскім асяроддзі. Але, як слушна зазначаецца на старонках выдання, вельмі плённым для яго ў гэтай справе аказаўся перыяд ІІ Сусветнай вайны, калі, нягледзячы на нямецкую акупацыю, яму ўдалося ў 1942 г. адкрыць у Маладзечне Сярэднюю гандлёва-адміністрацыйную школу, у якой Барыс Уладзіміравіч неўзабаве стаў і дырэктарам.

Па сведчанні былых навучэнцаў "Гандлёўкі", той час значна паўплываў на іх далейшае жыццё. Набытыя веды, прыхільнасць да беларусчыны дапамаглі не паддацца анямечванню ў час вайны, а пасля яе не стаць Іванамі, якія не помняць сваёй радні.

Ведаю гэта на сабе. Вучоба ў Барыса Кіта таксама вельмі дапамагла мне ў далейшым жыцці, асабліва ў мастакоўскай творчасці.

З 1972 г. Барыс Уладзіміравіч жыве і працуе ў Франкфурце-на-Майне. За апошнія некалькі год двойчы (першы раз у 1992 г., другі– у 1994 г.) наведаў Беларусь. Як сапраўдны патрыёт сваёй Радзімы і сёння ён турбуецца за лёс нацыянальнай асветы і культуры Бацькаўшчыны.

*Кастусь ХАРАШЭВІЧ,*
*мастак, былы вучань Б.Кіта ў Маладзечне.*

## Суббота, 7 декабря

**БТ** **8.00** Новости. **8.15** "Музыкальная обойма". **8.20** Созвучие. Передача из Гродно. **8.40** Здоровье. **9.15** Уроки Н.Новожиловой. **9.45** Все про все. **10.10** "Счастливые дни Мумми-троллей". Мультфильм. **11.10** Победитель. **11.30** Мир природы и увлечений. **11.50** "Есть только миг..." **12.10** Олимп: от подножия к вершине. **12.30** "Око". Про рекламу и не только... **12.50** Многоголосие. **13.20** Коллаж. **13.50** Чемпионат Беларуси по мини-футболу. **14.30** Телевизионный АРТ-клуб. **15.10** Творцы. **15.55** Четвертое измерение. **16.35** "История любви". Памяти кинорежиссера Виктора Турова. **17.05** Родовод. **17.45** Галерея. Предприниматель Евгений Будинас. **18.25** "Музыкальная обойма". **18.45** Х/ф "Женщина дня". **20.05** Банка комиксов. **20.40** Колыбельная. **21.00** Новости. **21.45** Музыкальный антракт. **22.05** "Подмосковные вечера". Х/ф. **23.35** **Видимо-невидимо.**

**ОРТ** **7.00** Х/ф "Ожерелье для моей любимой". **8.15** Мультфильм "Компьютерные войны - 2". **8.45** Домашняя библиотека. **9.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** "Не зевай!" **10.00** Утренняя почта. **10.35** Смак. **10.55** Возвращение Третьяковки. **11.25** "Ярослав Мудрый". 1-я и 2-я серии. **14.00** Новости. **14.20** Очевидное-невероятное. **14.50** "СоюзМультфильм" представляет. **15.45** Америка с М.Таратутой. **16.15** "Колесо истории". **17.00** Новости. **17.25** Ералаш. **17.55** Х/ф "Змеелов". **19.45** "Спокойной ночи, малыши!" **20.00** Время. **20.50** Что? Где? Когда? **22.10** "Каламбур". Юмористический журнал. **22.40** Х/ф "Дикие ночи".

**РТР** **7.00** Лукоморье. **7.30** Мультфильмы. **8.30** По вашим письмам. **9.00** Книжная лавка. **9.15** Парламентская неделя. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Тележурнал "Здоровье". **10.30** Доброе утро. **11.00** 21-й кабинет. **11.30** Анонимные собеседники. **12.00** "Поэт в России - больше, чем поэт". **12.25** Проще простого. **13.00, 19.00, 23.10** Вести. **13.20** "Охотник. Последняя схватка". Х/ф. 1-я с. **14.15** Ничего, кроме... А.Полеев. **14.30** Де факто. **15.00** Сад культуры. **15.30** Своя игра. **16.00** Мультфильм. **16.05** Звезды в Кремле. Кшиштоф Пендерецкий. **16.30** "Почти смешная история". Х/ф. **19.35** Субботний вечер с Иосифом Кобзоном. **21.05** Погода на завтра. **21.15** Совершенно секретно. **22.15** "Открытые новости". **23.25** Программа "А".

**5** **9.10** "Фолиант". Книга - почтой. **9.25** По реке плывет топор. **9.55, 11.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **10.10** "Честь имею". Военное обозрение. **10.40** "Необузданная Африка". Док. сериал. **11.10** Ток-шоу "Наобум". М.Задорнов. **11.40** Страсти-мордасти. **12.10** Хоккей. Чемпионат России. **14.15** Еще одна Россия. **14.50** Русская усадьба. **15.15** Спортивное обозрение. **15.25** Парадоксы истории. **16.10** "Голландия - лучшие друзья". Д/ф (Нидерланды). **16.30** Детское ТВ: "Смехотряшки". **16.40** "От и до..." **16.55** "Равняется любовь..." **17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.40** Большой фестиваль. **19.20** "Короткий фильм о любви, убийстве и еще об одном чувстве". Х/ф (Польша). **20.55** Светская хроника. **21.10** Блеф-клуб. **21.45** "Парад парадов" представляет. **22.30** Экспресс-кино. **23.00** "Страсти по Анжелике". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Сегодня утром. **9.00** Х/ф **"Шаг с крыши"**. **10.30** Телеигра "Пойми меня". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Хоккей. Чемпионат России. **14.30** Панорама. **16.00** "ЦРУ" (США). 5-я серия "Высокотехнологическое коварство". **16.30** "Великая иллюзия. Большое путешествие в Голливуд". Фильм 4-й. **17.00** Мультфильм "Человек-паук" (США). **17.30** Дог-шоу "Я и моя собака". **18.00**, 21.00 Сегодня вечером. **18.30** "Человек в маске". **19.20** "Криминальная Россия: современные хроники". **20.00** Намедни. **20.45** Куклы. **21.35** Х/ф "Игрок"(США). **23.45** Третий глаз. **0.30** Ночной канал."Плейбой".

## Воскресенье, 8 декабря

**БТ** **8.00** "Конан". Мультфильм. **8.25** "Два визита", "Юбилей". Х/ф. **9.15** "Своя дистанция". Здоровый образ жизни. **9.30** "Мультиклуб. **10.45** "Все нормально, мама!" **11.15** Туробъектив. **11.45** Вершина мира. Телеигра. **12.05** "Жили-были". **12.35** "Вечная память. Отзвук Чернобыля". Видеофильм. **13.35** "Сельчане". **14.05** Мост. **14.35** "Война в воздухе". Док. сериал. **15.00** Вершина мира. Продолжение. **15.20** Театр в кресле. **15.55** "Золотые ключи". **16.35** Х/ф "Счастливый случай". **17.45** Кубок Беларуси по футзалу. **18.35** Компьютерный полигон. **19.05** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Спортивный телекурьер. **21.10** Новости-ТВ. **21.25** Ток-шоу "Карамболь" с участием Владимира Туза. **22.00** Х/ф "Смерть на Ниле" (Великобритания). **0.30** Бархатный сезон.

**ОРТ** **7.00** Х/ф "Сломанная подкова". **8.20** Мультфильмы. **9.00** Новости. **9.15** "Непутевые заметки" Дм.Крылова. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** "Военный курьер". **11.30** "Играй, гармонь любимая!" **12.00** Русскій миръ. **12.30** "Подводная одиссея команды Кусто". **13.25** Смехопанорама. **14.00** Новости. **14.20** "Приглашение к музыке". **15.05** Клуб путешественников. **15.50** Как-то раз. **16.00** Мультфейерверк. **16.45** "Один на один". **17.15** "Счастливый случай". **18.05** Концерт Юрия Антонова. **19.00** Время. **19.40** Х/ф "За бортом". **21.50** Футбольное обозрение. **22.20** Новости. **22.30** Энтони Перкинс в детективе "Меч и весы".

**РТР** **7.00** Лукоморье. **7.30** Мультфильм. **8.15** Лото-миллион. **8.30** Пилигрим. **9.00** Устами младенца. **9.30** Присяга. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Русское лото. **10.55** Приз группы "Савва". **11.00** Человек на Земле. **11.30** Книжная лавка. **12.00** Телетеатр. А.Аверченко. "Муж... каких много". "Драма в доме Букиных". **12.25** Проще простого. **13.00, 23.25** Вести. **13.20** "Охотник. Последняя схватка". 2-я с. **14.05** Ничего, кроме... О.Романцев. **14.20** Диалоги о животных. **14.50** Караоке по-русски. **15.20** XX век в кадре и за кадром. **15.55** Репортер. **16.10** Футбол без границ. **16.40** "У всех на устах" с Натальей Дарьяловой. **17.00** Волшебный мир Диснея. "Чокнутый", "Аладдин". **18.00** "Хотите сниматься в кино?" **19.00** Зеркало. **19.55** Погода на завтра. **20.00** Репортаж ни о чем. **20.15** "Осенний марафон". Х/ф. **21.55** "К-2" представляет. **22.50** У Ксюши.

**5** **9.10** Папа, мама и я - спортивная семья. **9.35** Стиль жизни. **9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **10.10** Овертайм. **10.35** "Необузданная Африка". Док.сериал. **11.05** "Как папа был маленьким". Телеспектакль для детей. **11.45** Мультфильм. **12.10** "Праздники детства". Х/ф. **13.45** "Вне времени". Современная версия рассказа А.П.Чехова "Хористка". **14.10** Еще одна Россия. **15.15** Концерт памяти Г.А.Ковалевой. **16.10** Спортивная программа. **16.35** Детское ТВ. **17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания. "Коктейль". **18.40** Сокровища Петербурга. **19.25** "Караван смерти". Х/ф. **20.40** "Флоту быть!" **20.55** У всех на виду. **21.10** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.20** "Посмотрим". **22.35** "Ночь вопросов". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Сегодня утром. **9.00** Х/ф "Тимур и его команда". **10.30** Телеигра "Пойми меня". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Х/ф "Пусть говорят" (Испания — Аргентина). **13.40** Музыкальная программа "НТВ-плюс". **14.00** Д/ф "Дикая природа". Фильм 4-й. **16.00** Телеигра "Ключи от форта Байяр". **17.30** Телеигра "Сто к одному". **18.00** Сегодня вечером. **18.30** Х/ф "Один и без оружия". **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Жажда смерти"(США). **22.50** "Барышников в Голливуде"(США).

# Варажба па вачах

*(Заканчэнне. Пачатак у №43).*



## *Вашы вочы шэра-зялёна-карага колеру*



Калі вы з'явіліся на свет з гэтым чароўным па прыгажосці колерам вачэй, вам са спазненнем могуць параіць не нараджацца наогул, каб не мучыцца самім і не мучыць іншых. Дзякуй Богу, што гэтая парада справядлівая толькі часткова.

Вашы памкненні непаслядоўныя. Вы быццам пачаргова прымерваеце на сябе два касцюмы, імкнучыся адгадаць, які менавіта з іх вам больш да твару: касцюм, што робіць вас істотай настолькі слабай, што ўсякі, хто знаходзіцца побач, адчуе сябе волатам, або касцюм велікана, гаспадара як сваёй, так і чужых лёсаў.

Вы ніяк не можаце выбраць, які з касцюмаў сядзіць на вас лепей. Таму з зайздрасцю глядзіце на тых, хто гэты выбар зрабіў і дасягнуў поспеху. І хоць вы дасягнулі ў жыцці не менш, але ўсё адно клянеце сябе за сумненні і нерашучасць.

Людзі зачароўваюцца не толькі вашымі стракатымі, як руская раўніна, вачамі, але і трапяткім, нібы каласок на ветры, характарам. Налюбаваўшыся здаля, нямногія адчуваюць жаданне схаваць вас ад нягод. На жаль!

Вы самі з аднолькавай лёгкасцю зачароўваецеся як манументальнай асобай, так і надзетым на нікчэмнасць фарсістым гальштукам.

І ўсё ж, калі чараўнік прапануе замяніць ваша жыццё на адно з тых, якім вы пазайздросцілі, не згаджайцеся. Вельмі беднай апынецца яно ў параўнанні з вашым, дзе чароўна сплеценыя горыч і захапленне, вера і скепсіс, жыццём, якое заўсёды ўвянчанае надзеяй на цуд, якое аднойчы прынясе вам шчасце.

## *Вашы вочы шэра-зялёнага колеру*



Задумкі вашы смелыя і дзёрзкія. Вашай энергіі дзесяцікратна хопіць, каб іх укараніць, аднак многім з іх так і не наканавана быцьператворанымі ў жыццё. Прычына? Вы не можаце канфліктаваць з дарагімі для вас людзьмі. А без гэтага не адбываецца сур'ёзных пераўтварэнняў.

Вы заўсёды арыентуецеся на меркаванні блізкіх. Вы не здзейсніце таго, што выкліча іх асуджэнне. Вы не асудзіце каго-небудзь з іх, калі ён не зразумеў вашых лепшых памкненняў. Вы абвінавачаце сябе ў тым, што не аб тым думалі і не туды імкнуліся. Менавіта таму ў палітру вашых пачуццяў так часта ўплецена пакута.

У каханні вы выбіраеце партнёра самі, але вам недастаткова, каб гэта пачуццё спяняляла толькі адно сэрца; калі ваш "amant" не палае агнём у адказ, ваш запал згасае. Але калі полымя перакінулася і на другое сэрца, вы фанатычна адданыя свайму выбару.

І толькі адна акалічнасць здольная прымусіць вас яму здрадзіць: калі вы ўбачыце, што нехта куды больш, чым выбраннік, мае патрэбу ў вашым каханні.

Вы з лёгкасцю можаце асудзіць сябе на нешчаслівае жыццё з нелюбімым чалавекам, калі гэтага патрабуе нехта, чым добрым адносінам да сябе вы даражыце. Таму, выбраўшы пасію, увядзіце яе ў кола сваіх знаёмых і зрабіце так, каб знаёмыя глядзелі на яе вашымі ж вачыма.

## *Вашы вочы зялёна-карага колеру.*



Вы чалавек, які будуе свае ўзаемаадносіны з іншымі людзьмі ў залежнасці ад іх адносінаў да вашай асобы. Для тых, хто паднясе вам тое, што вы самі нашапталі яму на вуха, вы адданы, надзейны целаахоўнік.

Да таго, хто праігнараваў вашу просьбу, вам недастаткова проста адвярнуцца спінай, вам трэба пераканацца, што ён пашкадаваў аб сваім учынку. Для гэтага вы можаце паставіць на карту асабісты дабрабыт і жыццё. Таму пазбягайце водаваротаў. З іх вам цяжка выбрацца.

Ва ўраўнаважаным стане вы філосаф. Чаму? Па-першае, таму, што любіце, калі на душы ў вас спакойна і радасна, а гэтага не дасягнуць, не звярнуўшыся да мудрасці. А па-другое, растлумачыўшы людзям, як менавіта да вас патрэбна ставіцца, вы развілі здольнасць да лагічнага мыслення і важкай аргументацыі.

Вы стaранны прыхільнік традыцый. Для вас шчасце выконваць законы сям'і або нацыі. За гэта вас паважаюць сябры і пагарджаюць ворагі. У сябрах вы таксама шануеце скіраванасць звычаям і звычкам. І калі нават да зместу апошніх вы непрыхільныя, захапляецеся асобай іх прыхільніка.

Вы дасягнеце поспеху ў той галіне дзейнасці, дзе патрабуюцца ўстойлівасць і дакладнасць.

У каханні вы патрабавальныя да партнёра, таму што прыносіце на яе алтар пачуццё самі. Але не ўсё, а роўна столькі, колькі прынята ў тым асяроддзі, дзе вы выхоўваліся.

Вы абаяльныя! Людзі цягнуцца да вас знайсці спакой і жыццёвыя парады і таму ваша жыццё перапоўнена сяброўствам, каханнем і іншымі чалавечымі радасцямі. Толькі надзейна засцеражыце сябе ад тых, хто ставіцца да вас з непрыязнасцю.

## *Трохі аб уплыве колеру валасоў.*

Карэкціроўку ў апісаныя вышэй заканамернасці ўносіць колер валасоў.

**Цёмны колер валасоў** абвастрае якасці, уласцівыя каравокім людзям, а светлы, насупраць, шэравокім. Таму брунет з блакітнымі або шэрымі вачамі– асоба больш асцярожная і ўважлівая да сваіх патрэб, чым, скажам, шэравокі бландзін. А каравокая бландзінка– больш смелая і азартная, чым брунетка з такімі ж вачыма.

**Медны адліў валасоў** як бы даводзіць да абсалютнага ўвасаблення тыя якасці ў чалавеку, што характарызуюць колер яго вачэй. Шэравокіх робіць фанатыкамі мэты, непаражальнымі для стрэлаў і для крытыкі, каравокіх– крайнімі эгаістамі, здольнымі пераступіць дзеля капрызу праз любую перашкоду, зялёнавокіх– непахіснымі эстэтамі.

*Як быць, калі колер валасоў не натуральны, а дасягнуты выкарыстаннем фарбавальнікаў?*

Неабходна не менш трох месяцаў пабыць штучнай бландзінкай ці брунеткай, каб адбыліся змены ў характары. Аднак колькі б вы ні мянялі колер валасоў, вы заўсёды будзеце адчуваць на сабе ўплыў іх першапачатковага прыроднага колеру.

*(Па кнізе "Гадания народов мира")*

*"Бывай, -- сказаў Ліс -- Вось мой сакрэт, ён вельмі просты: пранікнёнае адно толькі сэрца. Самае галоўнае вачамі не ўбачыш."*

**А. де Сент-Экзюперы, "Маленькі Прынц"**






# Крыжаслоў

**Па гарызанталі:** 7. Жытло адной са свойскіх жывёл. 8. Раніцой п'е шампанскае ("Брыльянтавая рука"). 9. З якога пацука футра шыюць. 11. Месца найбольшай папулярнасці кандыдата ў дэпутаты. 12 ... лісток. 14. Што можна было купіць за 1 капейку (казачнае)? 17. Аматар сцягнуць, скрасці што-небудзь. 18. Музычны інструмент. 19. Назва месца, дзе ёсць аазісы. 20. Стул і ...– папулярны набор для розыгрышаў. 24. Аматар чужых цыгарэт. 25. Мост, па якім цячэ вада. 27. Заўсёды без ботаў. 31. Плато паміж Каспійскім і Аральскім морамі. 32. Краіна-капялюш. 33. У лёгкаатлетаў: выпрабаванне на жыццястойкасць. 34. Адзін з "падарункаў" А. Бендэра румынскім пагранічнікам. 35. Кожная жанчына, што прыходзіць да ўрача.

**Па вертыкалі:** 1. Салаўіная якасць. 2. Мянушка высокага, дужага чалавека (жаргон.) 3. Радня раяля. 4. Яе яшчэ трэба даказаць. 5. Адны яго робяць, іншыя– даюць. 6. "Партыя" для аматараў жывёл. 10. Камплімент падчас свары. 13. Сустрэча шматлікіх густаў. 14. Чарка ды .... 15. Кветка, закаханым нясе то шчасце, то наадварот. 16. Ні халодная, ні гарачая зброя. 21. Без скафандра яе не пакінеш. 23. Харчаванне халасцяка, студэнта і г. д. 27. Чалавек з відавочна меншай часткі нашага грамадства. 28. Нефармальны кіраўнік партыі, руху. 29. Каб гэты сыр зрабіць, то тварог кідаюць на дарозе ды б'юць нагамі. 30. Пра цень яго бацькі чулі амаль усе.

**Неразыграны ў першым крыжаслове прыз чакае вас!**

## Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў №39.

Адразу просім прабачэння ў чытача, які шмат часу правёў за разгадваннем слоў. Крыжаслоў невыпадкова называўся "Дзівакі". Акрамя вясёлых азначэнняў, там былі два словы, што не існуюць у мове, але якія можна было, здагадаўшыся, сканструяваць. А прызы былі вартыя намаганняў: 15-літровая бутэлька піва і паўтаракілаграмовы набор шакападу.

**Па гарызанталі:** 5. Кватэра. 6. Салавей. 10. Юнацтва. 11. АЛЬТАН. 12. Кірмаш. 16. Кракадзіл. 18. Вожык. 19. Алені. 20. Канбера. 21. АЗЕАРБА. 25. Завод. 26. Вёска. 27. Чужаземец. 30. Градкі. 33. Крытык. 34. Скандал. 35. Бегемот. 36. Мезазой.

**Па вертыкалі:** 1. Канкан. 2. Грант. 3. Халва. 4. "Авенір". 7. Калабок. 8. Уцекачы. 9. Абарона. 13. Тралейбус. 14. Бізнесмен. 15. Дымаход. 28. Скарга. 29. Арыёза. 31. Шклоў. 32. Балет.

## Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў №43.

**Па гарызанталі:** 5. Баталіст. 6. Рыдлёўка. 10. Пярсцёнак. 13. Надзея. 16. Японцы. 17. Гаворка. 18. Груган. 19. Знічка. 23. Кіпарыс. 24. Арарат. 25. Анкара. 28. Святлафор. 29. Правіянт. 30. Нарвегія.

**Па вертыкалі:** 1. Галандыя. 2. Сіняк. 3. Адвал. 4. Шкіпінар. 7. Бланшыраванне. 8. Ацэтон. 9. Перыядычнасць. 11. Ветэрынар. 12. Спатканне. 14. Баравік. 15. Скандый. 20. Авангард. 21. Матэль. 22. Скаржнік. 26. Сваяк. 27. Кобра.

## Яўрэйскі анекдот

# Ён і яна

✡ ✡ ✡

Вы ведаеце, як рэагуюць жанчыны розных нацыянальнасцяў, якіх мужы заспяваюць у момант нявернасці?

Англічанка:

– Джон, ты б хаця пагрукаў!

Францужанка:

– Клод, пазнаёмся. Гэта Жак.

Яўрэйка:

– Хайм, гэта ты прыйшоў?

– Так, я.

– А хто ж тады побач са мной?

✡ ✡ ✡

З кім ты быў учора ў кінатэатры?

Гэта мая нявеста.

– Што? Чалавеча, апамятайся, з ёй спала паўгорада!

– Фі, вялікі мне горад Валожын– пяць тысяч жыхароў!

✡ ✡ ✡

Два сваты-прафесіяналы, каб пазбегнуць канкурэнцыі, стварылі суполку. З-за таго, што адзін з іх быў разумнейшым, а другі розумам не надта вызначаўся, пастанавілі, што першы, прапануючы кандыдатам або кандыдаткам да шлюбу магчымых спадарожнікаў жыцця, будзе пералічваць іхнія вартасці, другі будзе гаварыць аб іх з перабольшваннем.

І вось яны прыходзяць да маладога чалавека і сватаюць паненку. Першы пачынае:

– Яе бацька паходзіць з арыстакратыі.

Другі дапаўняе:

– Што значыць арыстакратыі? Няма чалавека больш шляхетнага за яго!

– І ён багацей.

– Што значыць багацей? Ротшыльд, каханы божа!

– А паненка, ну і пекная!

– Што значыць пекная? Венера!

– І разумная.

–Што значыць разумная? Арыстоцель!

– У яе толькі невялічкая загана.

– Якая загана?– пытаецца насцярожана малойчык.

– У яе такі малы, маленькі, малюсенькі, малюпусенькі горбік.

Супольнік яго перабівае:

– Што значыць горбік? Горб– што Сінайская гара!

✡ ✡ ✡

Сара нагадвае мужу:

– У чэрвені спаўняецца дваццаць пяць год з дня нашага шлюбу. Трэба адзначыць сярэбранае вяселле.

– Пачакай яшчэ пяць год і будзем адзначаць трыццацігадовую вайну.

✡ ✡ ✡

Янкель– заўзяты карцёжнік. Аднаго дня Абрам, які сеў насупраць Янкеля, кажа яму:

– Цяпер, калі ты тут прайграеш грошы, твая жонка здраджвае табе з тваім найлепшым таварышам Хаскелем!

Янкель кідае карты і спяшаецца дадому, але праз мінут пяць-дзесяць вяртаецца. Твар яго прамянее шчасцем:

– Ведаеш, Абрам, камень з сэрца зваліўся. Гэта не мой таварыш Хаскель.

✡ ✡ ✡

Шмуль Грынер прыйшоў у страхавое агенцтва "Фенікс".

– Хачу застрахаваць сваё жыццё.

– Колькі вам год?

– Шэсцьдзесят.

– Мнагавата.

– Так, але я паходжу з даўгавечнай сям'і.

–Гм... Трэба падумаць,– кажа дырэктар.– Прыйдзіце, калі ласка, заўтра.

– Заўтра не магу. Шабаш!

– Тады ў панядзелак.

– У панядзелак не магу. Дзень нараджэння бацькі.

– І колькі яму год?

– Восемдзесят.

– Тады прашу прыйсці ў аўторак.

– Не магу. У аўторак жэніцца мой дзядуля.

– Колькі ж яму год?

– Нядаўна справіў сто гадоў.

– І ў такім узросце ён яшчэ хоча жаніцца?

– Што значыць хоча? Мусіць.

✡ ✡ ✡

Файвэль прыйшоў у госці да Іцака.

Падчас размовы кабета вельмі сумніўнай прыгажосці падае на стол гарэлку з закускамі.

– Ці гэта твая пакаёўка?– пытаецца Файвэль.

– Ну, ты і неразумны. Я б прыняў у дом такую брыдкую пакаёўку? Гэта мая жонка.

✡ ✡ ✡

Адзін купец, уладальнік галантарэйнай крамы, неаднойчы паслізнуўся на сцяжынцы сямейнай цнатлівасці. Лёс яму адпомсціў– справы пайшлі ў краме ўсё горш і горш. Няверны муж звярнуўся за парадай да чалавека, вядомага сваёй набожнасцю і суровасцю звычак. Той выслухаў донжуана і выказаў прысуд:

– Ты вялікі грэшнік! Ідзі неадкладна да рабіна, прызнайся ва ўсім і прасі сабе суровае пакаранне.

Купец паслухаўся старца.

Рабін выслухаў малойца, потым спытаў:

– Эге... Але з кім ты грашыў?

– Рабі, таго не магу вам сказаць. Гэта справа дзявочага гонару, разумееце?

– У такім разе я табе скажу: ты, мабыць, грашыў з Розай Шпігель, ну, з той Розай, што жыве на Садовай. У яе няма дастойнага аўтарытэту.

– Не, рабі, не. Прысягаю, што не!

– Ну, тады ты мусіў пралюбадзейнічаць з Бэлай Васеркорн, з той, чый муж працуе на абутковым складзе. Яна грэшная кабеціна.

– Не, рабі, прысягаю, што не!

– Ну, у такім разе толькі з Дэборай Зісман, жонкай вядомага крамніка.

– Не, рабі, не!

– Ну але з кім жа тады?!

– Не магу ў гэтым прызнацца. Гэта справа дзявочага гонару, разумееце?

– Упарты асёл, прэч з маіх вачэй!

Грэшнік у добрым настроі вярнуўся да старца.

– Ну што,– пытаецца той,– цяжкае пакаранне прызначыў табе рабін?

– Пакарання не прызначыў, але затое даў мне тры першакласныя адрасы.

✡ ✡ ✡

Параход на шляху ў Амерыку. Раптам за борт падае васьмігадовы сынок мільянера. Бацька ў роспачы абяцае пяць тысяч долараў таму, хто выратуе адзінага сына.

Праз хвіліну за бортам апынуўся Ізідар Рэк, выцягнуў дзіцёнка, падхапіў выратавальнае кола і падняўся на палубу. Шчаслівы бацька запрашае яго ў каюту, каб там выпісаць чэк на абяцаную суму.

Ізідар яго стрымлівае:

– Пра справы пагаворым крыху пазней. Цяпер я б хацеў даведацца, хто даў мне пад зад такога выспятка, што я ўмомант выляцеў за борт?

✡ ✡ ✡

Абрам раз за разам азіраецца на маладых кабет.

– Паслухай, нарэшце!– гаворыць абураная Сара.– Бачу, пры відзе кожнай прыстойнай гойкі забываешся, што ты жанаты.

– Проста наадварот, каханая, проста наадварот!– узыхае Абрам.

## Нашы захапленні

# Калекцыянер анекдотаў

***МЯДЗЕЛ. Раней ведаў жыхара вёскі Куцькі Генрыха Марачэўскага як умелага садавода-аматара, добрага агародніка, выдатнага знаўцу месцаў, дзе растуць баравікі, мноства ягад. Заўважаў, што ў гутарцы мой субяседнік не прамінаў ужыць прыказкі, прымаўкі, расказаць смешную гісторыю.***

А нядаўна даведаўся, што Генрых Пятровіч (цяпер на пенсіі, працаваў старшынёй прафкома калгаса "Канстанцінава") мае аб'ёмісты зборнік анекдотаў. Не сам іх складае, а калекцыяніруе. Захапленне гэтым жанрам народнай творчасці ў яго праявілася, калі ў апошнія гады шматлікія друкаваныя выданні сталі змяшчаць куткі сатыры і гумару. Сабраныя шаржы, карыкатуры, анекдоты пачаў выразаць з "Мінскай праўды", "Звязды", "Народнай газеты" і складаць у асобную папку. Калі колькасць выразак накапілася, зрабіў падшыўку. Зараз рыхтуе новы зборнік.

Аматар-калекцыянер любіць сам пачытаць вясёлыя старонкі "кніжкі", дае суседзям, знаёмым. Што ні кажыце, а дасціпны гумар уздымае настрой чалавека. Такі занятак, як калекцыяніраванне анекдотаў, пад сілу кожнаму чалавеку, не трэба пры гэтым траціць сіл, часу ды сродкаў.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*



КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў 48

Пішыце тэкст разборлівымі літарамі. Аб'ява павінна ўтрымліваць толькі адну прапанову. Аб'ём тэкста— не больш за 15 слоў. Аб'явы друкуюцца ў парадку чаргі. ***Дашліце купон у канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 32.*** Без чаргі аб'явы платныя. Даведкі па тэл. (01773) 53841

Тэкст аб'явы : ____________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):

